№№129–130
(3668–3669)

21 жніўня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС


**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

### АД РЭДАКЦЫІ

10 жніўня б.г. у "Народнай Волі" быў надрукаваны ліст мінчаніна Андрэя Лаўрынчыкава пад загалоўкам "Дзе вы, Аляксандр Уладзіслававіч?". Ён адрасаваны былому рэктару Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, экс-кандыдату ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, які пазней быў кінуты за краты, А.У.Казуліну. Заканчваўся матэрыял словамі: *"Міналі тыдні, месяцы, гады, а голасу галоўнага апанента Лукашэнкі не было чуваць. На жаль, не чуваць яго і цяпер. Што здарылася — ніхто не можа сказаць. Можа, ты, "Народная Воля", пральеш святло? Дзе зараз Аляксандр Уладзіслававіч Казулін? Як жыве, чым займаецца? Якія планы на будучае? Няўжо развітаўся з палітыкай?*

*Любое грамадства не мае перспектывы, калі яно не мае сапраўдных, самаахвярных лідараў. Такім лідарам я бачыў прафесара, доктара навук Аляксандра Казуліна. Няўжо гэта было маёй памылкай?"*

І вось учора на рэдакцыйным парозе з'явіўся Аляксандр Уладзіслававіч Казулін. Не будучы шматслоўным, ён прапанаваў надрукаваць кароценькі адказ аўтару ліста да яго. Вось ён (публікуем на мове арыгінала і з захаваннем аўтарскага стылю).

# Я не вижу смысла участвовать в явном абсурде



Спасибо Вам, Андрей, как и огромному количеству людей, которые, несмотря на время, помнят и верят в меня.

Никуда я не пропал — я вместе с вами каждой клеточкой впитываю с болью в сердце нашу белорусскую действительность.

Не скрою, что были и есть серьезные возможности устроить свое личное счастье в разных странах, но счастье и любовь мои здесь — на родной земле. Любовь к стране нашей и Господу, который не даст надругаться над ней, если мы сами не будем давать возможности надругаться над нами, над нашей совестью, честью и достоинством, над святыми понятиями, которые как будто незаметно для нас самих кинуты под ноги, растоптаны и продолжают топтаться на глазах у всех.

Что касается внешних проявлений своей деятельности, то я не вижу смысла участвовать в явном абсурде, который достиг уже невероятных размеров как со стороны власти, так и со стороны значительной части оппозиции.

Но я верю в наш народ и знаю, что когда поруганное "я" каждого, осознав это и выдавив из себя раба, восстанет и превратится в гордое "мы" — тогда придет к нам Господь и наступит наше время.

Если хочешь изменить мир — начни с себя. Осознание этой непреложной истины — ключ к Будущему Беларуси!!!

**Всегда с вами —**

**Александр КОЗУЛИН.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Ці па кішэні балельшчыкам такія цэны?

*Білетны пакет на два футбольныя матчы зборных Беларусі з камандамі Іспаніі і Грузіі, што адбудуцца ў кастрычніку на мінскім стадыёне "Дынама", будзе каштаваць ад 300 да 480 тысяч рублёў.*

Такія цэны зацвердзіла бюро выканкама Беларускай федэрацыі футбола. Нагадаем, што ў адборачных матчах да чэмпіянату свету 12 кастрычніка беларуская каманда згуляе з іспанцамі, а 16-га — са зборнай Грузіі.

Як паведамляе pressball.by, білеты на абодва матчы будуць прадавацца ў пакеце агульным коштам ад 300.000 да 480.000 рублёў. Калі ж частка пакетаў застанецца нерэалізаванай, то пасля матча з іспанцамі можна будзе купіць білеты на сустрэчу з грузінамі.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЧУЛІ?

## Сацыяльнага жылля будуецца менш

У студзені—ліпені 2012 года ў Беларусі для грамадзян, якія стаяць на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, уведзена ў эксплуатацыю 1507,9 тыс.кв.м агульнай плошчы жылля, або 57,1% агульнага аб'ёму ўведзенага жылля. У параўнанні з аналагічным перыядам 2011 года ўводзіцца жылля ў эксплуатацыю для гэтай катэгорыі грамадзян паменшыўся на 293,6 тыс.кв.м, або на 16,3%. Такія даныя прыводзяць у Нацыянальным статыстычным камітэце.

СУД ДЫ СПРАВА

## У «справе бакланаў» пастаўлена кропка?

*Як вядома, у гэтым месяцы суд вынес рашэнне па гучнай "справе бакланаў", пра якую расказвала наша газета. Вінаватым у жорсткім абыходжанні з жывёламі прызналі мясцовага жыхара Вадзіма Калодкіна.*



Нагадаем, што на востраве на возеры Лукомскім, што ў Чашніцкім раёне, у сярэдзіне чэрвеня знайшлі некалькі дзясяткаў птушанят бакланаў з адрэзанымі дзюбамі. Выказваліся меркаванні, што гэта папрацавалі браканьеры, якім за гэта плацяць рыбгасы.

Суд прызнаў вінаватым у здзейсненым жыхара Чашніцкага раёна **Вадзіма Калодкіна**. Па рашэнні суда яму неабходна ў агульнай суме заплаціць за жорсткае абыходжанне з птушкамі і нанесены навакольнаму асяроддзю ўрон каля 20 мільёнаў рублёў.

— Як высветлілася, гэты Вадзім Калодкін працуе матарыстам на ўчастку рыбгаса "Новалукомскі", — распавядае мясцовы арнітолаг **Віталь КАШЧЭЕЎ**. — Ён часткова прызнаў сваю віну, але, як мне падалося, удзельнічаў у злачынстве (інакш гэта нельга назваць) не адзін. Магчыма, усю віну ўзяў на сябе наўмысна, каб было меншае пакаранне. Дарэчы, той самы Калодкін знаходзіўся на востраве, калі прыязджала камісія Чашніцкай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, каб лавіць пакалечаных птушак для ўсыплення. Да суда ён казаў, што адразаў дзюбы, каб здаць у рыбгас, пасля змяніў паказанні... У выніку рыбгас наогул выйшаў сухім з вады. Адным словам, асабіста для мяне ў гэтай гісторыі засталося яшчэ вельмі шмат пытанняў.

**Алесь СІВЫ.**

## Суд над Дашкевічам 28 жніўня

Суд па новай крымінальнай справе лідара міжнароднай арганізацыі "Малады фронт" (Чэхія) Дзмітрыя Дашкевіча пройдзе 28 жніўня ў папраўчай калоніі №13 (Глыбокае, Віцебская вобласць). Як паведамляецца на афіцыйным сайце "Маладога фронту", пасяджэнне суда будзе закрытым.

Як вядома, Дзмітрыя Дашкевіча і яго таварыша па "Маладым фронце" Эдуарда Лобава затрымалі ў сталіцы напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў па абвінавачванні ў збіцці двух мінчан. 24 сакавіка 2011 года Дашкевіч быў асуджаны да двух гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Нядаўна ў дачыненні да Дашкевіча завялі новую справу — злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы. У выпадку прызнання віны яму пагражае пазбаўленне волі тэрмінам да года. Цяпер Дашкевічу застаецца адбыць менш за пяць месяцаў пакарання.

ЖАХ!

## За мінулыя выхадныя пяць самагубстваў

*І гэта толькі ў Мінску*

Тры жанчыны разбіліся, зваліўшыся з вялікай вышыні: 15-гадовая дзесяцікласніца адной з мінскіх школ саскочыла з даху 22-павярховага дома, 31-гадовая жанчына — з балкона 11-га паверха, а 46-гадовая — з акна на чацвёртым паверсе. Апошняя пасля падзення некаторы час заставалася жывая, але ў шпіталі ад атрыманых траўм усё-такі памерла.

Яшчэ двое павесіліся: у пятлі знайшлі 22-гадовую дзяўчыну і 50-гадовага мужчыну. Праверка ідзе па кожным выпадку, паведамляе БелаПАН. Дарэчы, Беларусь займае 4-е месца ў свеце па колькасці самагубстваў.

ПАЛІТЫЧНАЕ ЗАКУЛІССЕ

# Нашто раздзімаюць мыльную бурбалку Ляўковіча?

Прадстаўнікі ўлад перыядычна папікаюць партыі, што тыя на выбарах не надта актыўныя. Дык дзіва што: за 18 гадоў, цягам якіх кіруе Лукашэнка, апазіцыю хіба што дустам не спрабавалі! Душаць-душаць, як той Шарыкаў катоў, а потым, калі надыходзіць час ладзіць чарговы электаральны спектакль, пачынаюць кракадзілавы слёзы ліць: нешта пацыент слаба варушыцца!

Ці такі факт: другое дзесяцігоддзе ніводнай новай партыі не рэгіструюць. Напрыклад, хрысціянскіх дэмакратаў Мінюст чатыры разы пракідваў. Як фанера над Парыжам праляталі раз за разам іншыя партыі, грамадскія арганізацыі — той жа "Малады фронт", аб'яднанне "За справядлівыя выбары" і г.д. А ў праваабарончай "Вясны" нават адабралі ў свой час рэгістрацыю, каб ямчэй было душыць.

Але на гэтых парламенцкіх выбарах загнаныя на маргінэс партыі ўсё ж паказалі нейкі патэнцыял. Конкурс на кандыдатаў, насуперак наракашням пані Ярмошынай, аказаўся большы, чым падчас кампаніі 2008 года: тады было 365 прэтэндэнтаў, зараз — 494, прычым болей за палову — 264 — вылучаны менавіта партыямі. Дзеля гэтага нядаўна ладзіліся з'езды. Звыш таго, варушацца, нешта робяць і тыя палітычныя сілы, якія імкнуцца зладзіць байкот.

Аднак дзяржаўная прэса гэтых рэчаў ва ўпор не бачыць. Днямі галоўнае выданне ўлад зазначыла: *"Якая інтэнсіўнасць палітычнага жыцця, такая і цікавасць да яго з боку газеты... Таму мы з вялізнай цікавасцю ловім кожную свежую вестачку, каб хоць неяк захаваць рубрыку "Партыйнае жыццё".*

Між іншым зазначым, што ў публікацыі фактычна прызнаецца: палітычнага жыцця ў сінявокай рэспубліцы не болей, чым на Марсе. Усё задушана. Дадамо: перыядычна наверсе спахопліваюцца, што перагнулі кій, ушчэнт зачысцілі "адмарозкаў", а трэба ж хоць каліва таго партыйнага жыцця імітаваць, каб не нагадваць зусім ужо азіяцкую дэспатыю. І тады лялькаводы дастаюць тэчкі са сцэнарыямі "кіраванай дэмакратыі", пад якую патрэбны, натуральна, зручныя фігуры.

Дык вось, фішка згаданай публікацыі ў тым, якую менавіта свежую вестачку з партыйнага жыцця яна нясе. *"Дзелімся радасцю, ёсць навіна: на 23 снежня, калі верыць інтэрнэту, прызначаны ўстаноўчы з'езд новай партыі "Цэнтрысцкая партыя Беларусі", які адбудзецца ў Брэсце,* — з нечаканым энтузіязмам рапартуе аўтар публікацыі Сігізмунд Дашкевіч. — *Партыя гэтая, як вынікае з паведамленняў прэсы, з'явіцца на аснове сацыял-дэмакратычнай групоўкі, што чарговы раз распалася. Узначаліць партыю Анатоль Ляўковіч, які да нядаўняга часу кіраваў сацыял-дэмакратычнай "Грамадой", але праз інтрыгі аднапартыйцаў пакінуў сацдэмаў, што перагрызліся між сабой, ды сышоў на вольныя палітычныя хлябы".*

Даруйце за доўгую цытату, але ж тут столькі перлін! Па-першае, атрымліваецца, што ніякіх іншых падзей партыйнага жыцця няма і да 23 снежня не чакаецца (цэлая выбарчая кампанія — дробязь, нуль). Па-другое, спадар Ляўковіч паказальна апрануты ў белы фрак: з тэксту вынікае, што ні да грызні, ні да інтрыг ён ніякага дачынення не мае. Па-трэцяе, выданне не сумняваецца, што партыі наканавана быць, а Ляўковічу — яе ачоліць. Цікава, хто гэта ўжо вырашыў усё і за суровы Мінюст, і за паплечнікаў нібыта ўзыходзячай палітычнай зоркі? Ці, можа, аўтар уладнай газеты не бачыць нічога страшнага ў незарэгістраваных структурах, за дзейнасць ад імя якіх апазіцыю дзяўбуць у хвост і ў грыву сілавікі? Наўрад ці. Таму апрыёрная ўпэўненасць, што "партыі Ляўковіча" дадуць зялёнае святло, міжволі наводзіць на думку пра нейкі невядомы наіўнай публіцы сцэнарый, падрыхтаваны ў высокіх кабінетах.

Прыводзіць у замілаванне і фразачка *"Партыя гэтая, як вынікае з паведамленняў прэсы, з'явіцца..."* і г.д. Пакажыце мне той россып выданняў, што напераганкі спяшаюцца абвесціць свету аб праекце стагоддзя, за якім стаіць фігура Ляўковіча! Можна падумаць, што гэта рэдкі палітычны тытан. Калі ж сур'ёзна, то з якой мэтай раздзімаюць чарговую мыльную бурбалку, робяць з мухі слана?

*"Што будзе далей у сп.Ляўковіча, ці здолее ён унесці ў летаргічны сон партыйнага жыцця "сапраўдную палітычную жарсць", мы пакуль што не ведаем, але будзем сачыць за навінамі",* — шматабяцальна рэзюмуе аўтар дзяржаўнай газеты. Цікава, што яго развагі пра разбазараны апазіцыйнымі лідарамі крэдыт даверу нібыта і не тычацца адзінага канкрэтнага героя публікацыі. Пры тым што сп.Ляўковіч — далёка не свежы твар у тытульнай апазіцыі, ягоная рэпутацыя, мякка кажучы, неадназначная і звязаныя з яго асобай скандалы таксама спрычыніліся да расцярушвання таго крэдыту даверу.

Звычайна дзяржаўная прэса аднолькава мажа дзёгцем усіх прадстаўнікоў "пятай калоны". А тут раптам празрыста намякаюць, што калі сп.Ляўковіч будзе хоць трохі варушыцца, то піяр яму забяспечаны і надалей. Дарэчы, а ці няма сувязі паміж гэтай зялёнай вуліцай і тым фактам, што згаданы палітык зараз ідзе ў кандыдаты на парламенцкіх выбарах?

Увогуле, ці шмат хто з апанентаў рэжыму можа пахваліцца такой пратэкцыяй (хоць, зазначым дзеля справядлівасці, і з пэўным налётам грэблівасці)? Пытанне рытарычнае. Зрэшты, аўтар дзяржаўнай газеты відавочна перастараўся з гэтым раялем у кустах. Мядзведжая паслуга. Вушы з публікацыі тырчаць настолькі, што многія людзі ў незалежнай супольнасці будуць трымацца ад сп.Ляўковіча яшчэ далей.

**Алесь ПРАМЕНЬ.**

БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ

# Чаго чакаць ад Уладзіміра Макея?



*Былы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Макей узначаліў Міністэрства замежных спраў. Яго папярэднік Сяргей Мартынаў вызвалены ад пасады "ў сувязі з пераходам на іншую працу".*

Варта адзначыць, што Уладзімір Макей знаходзіцца ў спісе асоб, якім забаронены ўезд на тэрыторыю Еўрасаюза. Не выключана, што цяпер еўрапейцам давядзецца прыбраць адтуль ягонае прозвішча. Аднак першы замежны візіт Макея будзе, хутчэй за ўсё, не ў Еўропу і нават не ў Расію.

— *Магчыма, Уладзімір Уладзіміравіч у якасці міністра накіруецца адразу ў Іран — напрыканцы жніўня там адбудзецца саміт Руху недалучэння, членам якога з'яўляецца наша краіна,* — гаворыць міжнародны аглядальнік **Раман Якаўлеўскі**. — *А напярэдадні ў Тэгеране збяруцца кіраўнікі знешнепалітычных ведамстваў.*

Ці здольны Макей нармалізаваць адносіны Беларусі з Захадам? І чаго чакаць ад гэтага прызначэння? Меркаванні экспертаў на гэты конт разыходзяцца.

— *Сяргей Мартынаў пры ўсім яго розуме, прагматызме і досведзе сам мала што мог вырашаць,* — падзяліўся з "Народнай Воляй" сваімі думкамі дыпламат, першы амбасадар незалежнай Беларусі ў Германіі **Пётр Садоўскі**. — *Але Мартынаў працаваў даволі роўна і вельмі прафесійна. На мой погляд, ён заслугоўвае кампліментa.*

*Калі прааналізаваць апошнія публічныя выступы Уладзіміра Макея, то там можна знайсці выпады не зусім дыпламатычнага кшталту... І што тычыцца спадзяванняў на нармалізацыю адносін з Захадам, то ў нашай краіне гэта залежыць не ад міністра замежных спраў...*

— *Мне не вельмі зразумела прызначэнне Макея кіраўніком МЗС, бо пакуль што ён у спісе невыязных, і туды чыноўнікаў уносілі не па пасадах, а па прозвішчах,* — заўважае **Раман Якаўлеўскі**. — *Усе ведаюць, што ў Макея выдатная нямецкая мова, але я сумняваюся, што з ім будзе рады сустрэцца той жа міністр замежных спраў Германіі* ***Гіда Вестэрвеле,*** *якога ў Беларусі неаднойчы палівалі брудам...*

*Яшчэ я звярнуў бы ўвагу на такую рэч: на мінулым тыдні ў Мінску быў міністр замежных спраў Расіі Сяргей Лаўроў, з якім сустракаўся Мартынаў, а на гэтым тыдні мы ўжо маем новага міністра. Наколькі я ведаю, Макей не быў жаданым у Маскве, дзе яго лічылі нейкай празаходняй фігурай у атачэнні Лукашэнкі...*

А вось старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька** спадзяецца бліжэйшым часам дачакацца прэс-канферэнцыі Уладзіміра Макея, на якой той працягне руку еўрапейцам.

*"М. замянілі на М. Ад перамяшчэння літары па гарызанталі ці вертыкалі ўлады нічога не мяняецца,* — так пракаментаваў кадравую ракіроўку палітык на сваёй старонцы ў "Фэйсбуку". — *Адзіным практычным наступствам можа быць спроба наладзіць адносіны з Захадам. Гэта калі шукаць аптымістычныя наступствы гэтай перастаноўкі фігур на шахматнай дошцы. Мартынаў усё ж асацыіруецца з крызісам у адносінах афіцыйнага Мінска з еўраатлантычнай прасторай. Калі гэта так, то варта чакаць прэс-канферэнцыі Макея, на якой ён зробіць прапановы для Захаду. У агульны кантэкст сітуацыі тады можна арганічна пакласці і вызваленне фігурантаў па "справе аб медзведзянятах".*

Якую працу прапануюць **Сяргею Мартынаву**? У калядыпламатычных колах даволі працяглы час хадзілі размовы аб тым, што Мартынаў быццам бы марыў прыгожа сысці і паехаць амбасадарам, напрыклад, у Брусель. Але ці спраўдзяцца надзеі — пакажа час.

### СВЕЦКАЕ ЖЫЦЦЁ

Жонка былога міністра замежных спраў **Маргарыта Мартынава** рэгулярна ладзіла сустрэчы з жанчынамі-дыпламатамі і жонкамі амбасадараў. Маргарыта Аляксандраўна наведвала тыдні моды, розныя культурныя і дабрачынныя мерапрыемствы. Цяпер, мяркуючы па ўсім, за свецкае жыццё на міжнародным узроўні будзе адказваць жонка Макея —вядомая актрыса **Вера Палякова**.

### З дасье «Народнай Волі»

*Макей мае вопыт дыпламатычнай працы.*

*У 1993—1996 гадах ён працаваў трэцім сакратаром упраўлення інфармацыі і гуманітарнага супрацоўніцтва, другім сакратаром аддзела аналізу і прагназавання, другім сакратаром сакратарыята МЗС.*

*У 1995—1996 гады кіраваў службай дзяржаўнага пратакола, з 1996-га па 1999 год прадстаўляў Беларусь у Савеце Еўропы, быў дарадцам амбасадара Беларусі ў Францыі, потым — кіраўніком упраўлення агульнаеўрапейскага супрацоўніцтва МЗС.*

ТЫМ ЧАСАМ

## Хто будзе кіраваць Адміністрацыяй прэзідэнта?

Сярод верагодных прэтэндэнтаў на адну з ключавых пасад называюцца розныя прозвішчы, у тым ліку першага намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандра Радзькова і памошніка кіраўніка дзяржавы **Наталлі Пяткевіч.**

У спіс магчымых зменшчыкаў Макея запісалі нават старшыню Гродзенскага аблвыканкама **Сямёна Шапіру:** маўляў, на апошніх нарадах з удзелам кіраўніка дзяржавы ён быў адзіным, хто асмельваўся ўслых крытыкаваць і нават супрацьстаяць пазіцыі прэм'ер-міністра **Міхаіла Мясніковіча**. Версія, як кажуць, мае права на жыццё, бо, як паказвае практыка, А.Лукашэнка любіць сутыкаць чыноўнікаў ілбамі, таму не варта чакаць, што Адміністрацыяй будзе кіраваць той, хто мае нармальныя ці нават сяброўскія стасункі з тым жа Мясніковічам.

**Марына КОКТЫШ.**

БЕЛАРУСЬ: МОДЕРНИЗАЦИЯ, ВЗГЛЯД В ЗАВТРА



## Сергей ЧАЛЫЙ, экономист:
# «Хуже не будет, но и лучше не станет»

*Независимый экономист Сергей Чалый считает, что у белорусских властей достаточно рецептов того, как реформировать экономику страны. Их "выписывали" эксперты Международного валютного фонда, Всемирного банка и других авторитетных структур. Но готов ли официальный Минск к ним прислушаться?*



Экономическую политику государства анализирует экономист Сергей Чалый.

**— Сергей, самая обсуждаемая новость последних дней — отставка сторонника "рыночного социализма" Сергея Ткачева с поста помощника президента по вопросам экономики и назначение на эту должность экс-главы Нацбанка Петра Прокоповича. Некоторые эксперты полагают, что в стране могут начаться экономические реформы. Вы разделяется их мнение? Чем вообще, на ваш взгляд, была вызвана эта кадровая перестановка?**

— Мне кажется, мы слишком много значения придаем этой кадровой рокировке и этой позиции — помощник президента по экономическим вопросам. На самом деле этот человек мало что решает. Но он должен доносить президенту быструю экспертную оценку тех или иных предложений Совмина, Нацбанка и т.д.

В прошлом году, когда в стране случился экономический кризис, стало очевидно, что точка зрения, которой придерживался помощник президента Сергей Ткачев, а именно его антирыночная политика, потерпела фиаско. Кризис в Беларуси разрешился простейшими рыночными механизмами — введением рыночного курса и ужесточением денежно-кредитной политики.

Кроме того, Ткачев проиграл и интеллектуальное противостояние. Более 10 лет человек, который не имел профильного экономического образования, выполнял надзорные функции, мог вычищать любые незначительные рыночные предложения, которые содержались в документах, подготовленных правительством для президента. Но представители Совмина, Нацбанка, Минэкономики сумели консолидироваться и дать отпор этим комиссарским глупостям. Вспомните знаменитое заседание Совмина в конце прошлого года, когда Ткачеву дал отпор Михаил Мясникович... Также была успешно предпринята попытка ввести в Администрацию президента специалиста по экономике. Этим человеком стал Андрей Тур. И странным было то, что отставка Ткачева тормозилась, его так долго держали и не могли найти замену.

Что касается Петра Прокоповича... Не думаю, что ему удастся убедить Александра Лукашенко сменить экономический путь, "рыночность" Прокоповича сильно преувеличена. Еще будучи вице-премьером Беларуси, Прокопович не отметился рыночными взглядами, наоборот, он был одним из сторонников принятой на вооружение в дальнейшем доктрины стимулирования спроса на жилье как экономического локомотива, и в итоге до 70% жилья возводилось с помощью господдержки. Находясь на посту главы Нацбанка, Прокопович также противился тем рыночным мерам, благодаря которым кризис 2011 года и разрешился... На мой взгляд, Петру Петровичу предложили эту должность потому, что Прокопович сможет доносить до президента на понятном ему языке предложения, выдвигаемые по поводу того, что сегодня происходит в экономике, и то, о каких решениях между собой договариваются Совмин и Нацбанк. А Прокопович имеет опыт понимания того, что эти специалисты пишут. Ситуация в экономике сегодня непростая, она не управляется указами, к чему привык Александр Лукашенко.

**— А какая это ситуация? Власти смогут к концу года довести уровень зарплат до пресловутых 500 долларов, сохранив при этом прежние цены на товары и услуги?**

— Долгое время у нас был фиксированный курс доллара, и была возможность сохранять иллюзию того, что у нас высокий экономический рост и зарплаты растут в долларовом выражении. Но когда пузырь лопнул, доходы населения снова упали на тот уровень, который экономика может позволить.

Плавающий курс доллара, который есть сейчас, сокращает возможности манипулирования — создавать из воздуха деньги и выплачивать зарплату в 500 долларов, а также лишает возможности искусственного стимулирования экономического роста путем финансирования госпрограмм через эмиссионное кредитование. Это когда банки заставляли вкладывать ресурсы не туда, куда они хотели, а куда хотели власти.

Кризиса как бы избежали, краха не будет, потому что курс доллара отпустили. И если ничего не трогать, не включать административной ресурс, то зарплата все равно — раньше-позже — станет 500 долларов, не так далеко мы от этой цифры находимся. Но власти вместо того, чтобы спокойно подождать, только об этом и говорят. Все это приводит к тому, что возникает лишняя нервозность у людей, руководителей предприятий, все начинают опасаться, что такое административное подстегивание процесса может привести к тому, что хрупкая стабилизация в стране, которая случилась прошлой осенью, прекратится...

Проверить, "потянет" ли экономика 500 долларов, очень легко. Можно уже в следующем месяце начать выплачивать зарплату, эквивалентную сегодня 500 долларам, и через полгода посмотреть, какой будет курс доллара. Уверен, что выше нынешнего. Понимают это и власти, поэтому начинают заниматься всякими бухгалтерскими трюками. Например, Минфин предлагает перераспределить нагрузку с нанимателя на работника по уплате отчислений в Фонд социальной защиты и увеличить ее с 1 до 15 процентов. Понятно, что если доля налогов, которые будут уплачивать физические лица, вырастет, то и на руки из 500 долларов работник будет получать гораздо меньше.

То, что у властей нет ресурсов увеличивать зарплату теми темпами, как бы ей хотелось, видно еще и потому, что анонсированное увеличение тарифной ставки 1-го разряда с 1 августа отложили. Хотя страна вступает в предвыборную кампанию.

**— Сергей, вы член инициативной группы Александра Милинкевича, который принял решение баллотироваться в депутаты. Милинкевич сделал заявление, что его команда более года работала над "Народной программой", которая содержит план реформ для Беларуси. Не могли бы пояснить, что конкретно вы предлагаете ?**

— Уже столько подсказок давали белорусским властям эксперты различных авторитетных международных финансовых компаний, столько рецептов выписывали миссия МВФ, миссия Всемирного банка, что добавить что-то сложно. Более того, эти рецепты на различных совместных семинарах, в которых участвовали и представители белорусской власти, прошли экспертизу, ни у кого нет споров, что нужно делать. Но проблема в том, что у руководства Беларуси нет политической воли по этому пути пойти.

Да, стабилизация случилась. Но это стабилизация на дне. Теми мерами, которыми белорусские власти пользовались раньше, в условиях, если даже не отходить от плавающего курса, подстегивать экономику, доходы населения нельзя. Не получится. Можно, конечно, перейти к фиксируемому курсу, и, возможно, снова несколько лет удастся создавать видимость того, что у нас все хорошо. Но тогда получим снова ситуацию 2011 года.

Единственный способ, который может помочь белорусской экономике, — это реформы. Это меры, которые должны быть направлены на повышение эффективности экономики, которые предполагают развитие конкуренции и сокращение доли государства в ней, реформирование господдержки, реформирование бюджетных принципов и т.д. Но проблема в том, что идеологически это неприемлемо, наше руководство привыкло управлять указами.

Сегодня ситуация напоминает вторую половину 1980-х годов, когда стало понятно, что советская экономика не дает никакого экономического роста, модель себя исчерпала. Так же и в Беларуси: в прошлом году для всех стало очевидно, что модель белорусской экономики себя изжила. Но, как и в 1980-е, когда была принята модель ускорения — ускоряться ничего не меняя, так и в современной Беларуси идут разговоры, что рост будет, но только в соответствии с ростом производительности труда. Но когда в 1990-е начались реформы, все закончилось тем, что те, кто реформы начал, власть потеряли. Для современных белорусских руководителей этот опыт неприемлем. Поэтому они сидят и думают, как это сделать так, чтобы рост произошел, но контроль над экономикой они не потеряли. Но это невозможно.

Поэтому мой прогноз — хуже не будет, но и лучше не станет. Экономического роста на уровне 8 процентов ВВП в год, как хотят власти, не случится. Рост будет, как прогнозируют независимые экономисты и эксперты МФВ, на уровне 3 процентов. И таким он был в первом полугодии этого года. А если учесть, что производительность труда в среднем растет такими же темпами, как ВВП, это означает, что реальные доходы населения смогут расти только на такие единицы процентов в год.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

## *Лёс беларуса — у руках беларуса*

Сёння неабходна зрабіць так, каб беларусы не проста пасіўна згаджаліся на мадэрнізацыю, якую нібыта мусіць нехта для іх зрабіць, але і самі пачалі вымагаць нармальных змен — павагі да сябе і сваіх правоў з боку ўлад, эфектыўнай эканамічнай і сацыяльнай палітыкі, якая дазваляе самарэалізавацца і гарантуе годны лад жыцця, а таксама фарміравання аўтэнтычнага беларускага духу і беларускай мары, не горшай за іншых, а для нас, беларусаў, вядома, самай жаданай і выключнай.

Царская і савецкая імперыі рабілі ўсё, каб пераканаць людзей, што яны самі ні на што не здатныя, затое "наверсе" наперад ведаюць, што трэба і важна. Сённяшні посткамуністычны аўтарытарызм ідзе тым жа шляхам. Таму лічым, што галоўнай ідэяй рэформ у Беларусі мусіць быць вяртанне людзям веры ў сябе, веры ў тое, што Асоба, беларус можа сам кшталтаваць свой лёс.

*(З артыкула **А.Лагвінца** і **Р.Астапені** "Вярнуць беларусам веру ў сябе", БелаПАН.)*

ЗА РУЛЁМ

## *Адна з самых аварыйных дарог Мінска — МКАД*

*Размовы аб павышэнні хуткаснага рэжыму на Мінскай кальцавой аўтадарозе да 140 км/г заўчасныя. Пра гэта ў эфіры тэлеканала "Беларусь 1" паведаміў старшы інспектар УДАІ МУС Беларусі **Міхаіл Банадык**.*

МКАД уваходзіць у пералік дарог, якія падлягаюць дэталёваму вывучэнню па магчымым павелічэнні гранічнай хуткасці, але ў цяперашні час яна з'яўляецца адной з самых аварыйных у горадзе, перадае БЕЛТА.

Таксама, па словах Міхаіла Банадыка, заўчасна казаць і аб павелічэнні максімальна дапушчальнай хуткасці на М-1 (Брэст—Мінск—мяжа Расіі) да 140 км/г. *"М-1 разлічана пад хуткасць 120 км/г. У такім рэжыме забяспечваецца бяспека руху аўтамабіляў. На многіх участках на гэтай трасе ўжо можна разганяцца да такой хуткасці"*, — адзначыў старшы інспектар.

Разам з тым старшы інспектар адзначыў, што на аўтамабільнай дарозе М-4 (Мінск—Магілёў), якая будзе адкрыта пасля рэканструкцыі, дапушчальная хуткасць можа быць павышана.

НА ВОЛІ

## Антон СУРАПІН:
# «Не зламаўся...»

*Некалькі дзён таму на волю з СІЗА КДБ выйшлі закладнікі "мядзведжай справы"журналіст Антон Сурапін і рыэлтар Сяргей Башарымаў. Сярод шматлікіх віншаванняў і інтэрв'ю Антон знайшоў некалькі хвілін, каб адказаць на пытанні "Народнай Волі".*



За некалькі дзён, што Антон знаходзіцца на волі, у кватэры бацькоў у Слуцку перабывалі бадай што ўсе прадстаўнікі незалежных СМІ Беларусі. Не аб усім малады чалавек можа расказаць, але на інтэрв'ю пагаджаецца лёгка — разумее, наколькі важная гэтая тэма.

Звязваемся з Антонам па тэлефоне, ён якраз размаўляе з калегамі з тэлебачання. Перш за усё — віншаванні ад рэдакцыі і словы ўдзячнасці ад юнака ўсім, хто падтрымліваў, дапамагаў і, канешне, бацькам за мужнасць.

*— Мае бацькі раней за палітыкай не сачылі,* — прызнаўся малады журналіст "Народнай Волі". — *Былі цалкам апалітычныя. Калі я распавядаў ім пра маўклівыя акцыі пратэсту, што адбываліся мінулым летам, слухалі, але ставіліся проста: "Ну, ёсць і ёсць". Але калі з нашай сям'ёй адбылося ўсё гэта, іх светапогляд памяняўся.*

*А да гэтага выпадку яны былі спакойныя, нейтральныя, ціхія жыхары маленькага Слуцка.*

**— Бацькі па-новаму зірнулі на тое, што адбываецца ў краіне. А вашы прынцыпы пасля зняволення засталіся нязменныя? Не хацелася сказаць: "Гары яно гарам!"?**

*— Кінуць сваю справу мне ніколі не хацелася. Сваю працу закідваць я не збіраюся, наадварот, планую развіваць праект Belarusian News Photos. Не зламаўся...*

**— У адной з размоў вы прызнаваліся, што вам не хапала прывычных заняткаў...**

*— Моцна сумаваў па працы. Ведаеце, на Дзень Незалежнасці 3 ліпеня я адзняў адразу тры матэрыялы. Лета такі час, калі ў мяне канікулы і шмат вольнага часу. Здымаеш па некалькі матэрыялаў, цэлы час недзе бегаеш, аб нечым думаеш, разважаеш. А тут сядзіш цэлы дзень у камеры...*

*Пакуль сайтам займаецца мой калега Сяргей. У мяне проста няма часу, але спадзяюся, што ў бліжэйшыя дзень-два вызвалюся. Прагляджу ўвесь сайт, выпраўлю некаторыя памылкі.*

**— Вы не стаміліся ад увагі?**

*— З паразуменнем стаўлюся да таго, што зараз адбываецца. Справа нават не ў тым — надакучылі ці не. Звычайна я знаходжуся па той бок аб'ектыва разам са сваімі калегамі. А зараз я стаў інфармацыйнай нагодай. Уражанні неперадавальныя!*

Нагадаем, што Антон Сурапін быў затрыманы 13 ліпеня, пасля таго як на сваім сайце Belarusian News Photos размясціў фотаздымак шведскіх мядзведзяў-дэсантнікаў, якіх выкінулі над Беларуссю прадстаўнікі шведскага рэкламнага агенцтва. 23 ліпеня Сурапіну было прад'яўлена абвінавачанне па частцы 3 артыкула 371 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь "Незаконнае перасячэнне дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь". Юнака вызвалілі 17 жніўня пад падпіску аб неразгалошванні і нявыездзе.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ВЫБАРЫ-2012

# Хто ў Беларусі выступае за свабодныя выбары?

*Акруговыя камісіі Мінска не дапусцілі назіральнікаў грамадзянскай кампаніі "Праваабаронцы за свабодныя выбары" да працэсу праверкі подпісаў і дакументаў вылучэнцаў у кандыдаты ў дэпутаты.*

Як паведаміла назіральнік Валянціна Свяцкая, некаторыя адмовы камісій складзены практычна ідэнтычна, дзе назіральнікам паведамляюць, што іх дапускаюць да пасяджэнняў па выніках праверкі матэрыялаў, але не да самога працэсу, піша www.spring96.org.

Напрыклад, у адказе назіральніку па Паўднёва-Заходняй акрузе №99 Васілю Санковічу камісія паведамляе:

"У адпаведнасці з часткай чацвёртай артыкула 13 Выбарчага кодэкса, вы як назіральнік маеце права прысутнічаць на пасяджэнні камісіі, дзе будзе вызначацца парадак праверкі дакументаў, прадстаўленых для рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў РБ, на пасяджэнні камісіі, дзе будуць разглядацца матэрыялы праверкі сапраўднасці подпісаў выбаршчыкаў у падпісных лістах, а таксама на пасяджэнні камісіі, дзе будзе разглядацца пытанне аб рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты. Аб'явы аб тэрмінах пасяджэнняў камісіі будуць загадзя вывешаны ў памяшканні акруговай камісіі".

Тым не менш Санковіча да праверкі подпісаў не дапусцілі.

Назіральніцы па Грушаўскай акрузе №98 Наталлі Манькоўскай адказалі, што прысутнасць назіральніка пры праверцы сапраўднасці подпісаў з'яўляецца ўмяшальніцтвам у працу камісіі.

Назіральніцы па Заходняй акрузе №102 Ларысе Андросік ў камісіі спачатку сказалі, што яна зможа прысутнічаць пры праверцы подпісаў і паабяцалі загадзя паведаміць аб пасяджэнні. Аднак інфармацыю пра пасяджэнні камісія загадзя так і не дала назіральніцы, якой давялося даведвацца расклад самастойна. Праўда, і ў гэтым выпадку яна не змагла прысутнічаць пры праверцы.

У назіральніцы па Каліноўскай акрузе №108 Алены Арэшка камісія нават не зарэгістравала заяву, у якой яна просіць дапусціць яе да праверкі подпісаў...

Пакуль да працэсу праверкі дакументаў вылучэнцаў у дэпутаты ў Мінску не дапусцілі ні аднаго назіральніка ад кампаніі "Праваабаронцы за свабодныя выбары".

# Хто ідзе ў дэпутаты?

*Засядаць у Палаце прадстаўнікоў новага склікання жадаюць 21 дзейны дэпутат, старшыні райвыканкамаў,памочнікі прэзідэнта і прадстаўнікі сілавых структур.*

Зноў пераабрацца маюць намер старшыня ніжняй палаты парламента **Уладзімір Андрэйчанка,** яго наменік **Віктар Гумінскі,** старшыні камісій па праблемах чарнобыльскай катастрофы, экалогіі і прыродакарыстанні **Сяргей Канопліч**, па заканадаўстве і судова-прававых пытаннях **Мікалай Самасейка**, па міжнародных справах і сувязях з СНД **Віталь Бусько**, а таксама дэпутаты **Ларыса Багдановіч, Генадзь Грыцкевіч, Леанід Кавалевіч, Аляксандр Зазуля, Зінаіда Мандроўская, Аляксандр Папкоў, Інеса Кляшчук, Яўген Абаленскі, Ганна Лявіцкая, Алена Шамаль, Уладзімір Васіленка, Аляксандр Розганаў, Валянціна Леаненка, Святлана Шылава, Аляксей Кузьміч, Валянціна Жураўская.**

Сярод прэтэндэнтаў ёсць і дэпутаты Палаты прадстаўнікоў ранейшых скліканняў: пенсіянер **Сяргей Касцян**, ваенны пенсіянер **Валерый Фралоў**, юрысконсульт гарадскога ГА "Праваабарона спажыўцоў" **Уладзімір Навасяд**. Прынялі рашэнне пазмагацца за дэпутацкі мандат і некалькі былых кандыдатаў у прэзідэнты: лідар руху "За Свабоду" **Аляксандр Мілінкевіч**, наменік старшыні Партыі БНФ **Рыгор Кастусёў**, эканамічны дарадчык Бізнес-саюза прадпрымальнікаў і наймальнікаў імя прафесара М.С.Куняўскага **Віктар Цярэшчанка**.

Ідэя стаць дэпутатам Палаты прадстаўнікоў сёлета дастаткова папулярная сярод старшыняў райвыканкамаў. Адразу сем чыноўнікаў такога рангу вылучаны кандыдатамі ў дэпутаты: старшыня Баранавіцкага райвыканкама **Мікалай Язубец,** Пружанскага — **Аляксандр Юркевіч**, Лепельскага — **Пётр Шыкшыян**, Аршанскага — **Уладзімір Дзедушкін,** Шаркоўшчынскага — **Мечыслаў Морхат**, Рэчыцкага — **Пётр Шостак**, Жлобінскага — **Леанід Апанасюк**, Шчучынскага — **Сяргей Ушкевіч**, Клецкага — **Анатоль Бойка.** Разлічвае стаць дэпутатам і першы наменік старшыні Магілёўскага аблвыканкама **Уладзімір Краўцоў**.

Сярод вылучаных кандыдатаў у дэпутаты ёсць прадстаўнікі сілавых структур. Міністэрства ўнутраных спраў прадстаўляе наменік міністра **Валерый Гайдукевіч**, Камітэт дзяржаўнай бяспекі — наменік начальніка КДБ па Віцебскай вобласці **Васіль Папко** і начальнік Галоўнага ўпраўлення эканамічнай бяспекі КДБ **Віктар Русак**, Узброеныя сілы — начальнік Галоўнай ваеннай інспекцыі **Аляксандр Мяжуеў**. Кантрольныя ведамствы сярод прэтэндэнтаў на дэпутацкі мандат прадстаўляюць наменік старшыні КДК **Аляксандр Агееў** і старшыня КДК Мінскай вобласці **Уладзіслаў Цыдзік**. Змяніць судовую ўладу на заканадаўчую маюць намер старшыні Гомельскага абласнога суда **Людміла Міхалькова** і суда Кастрычніцкага раёна Мінска **Уладзімір Чаравач**.

Выказалі жаданне балатавацца адразу тры памочнікі прэзідэнта — галоўныя інспектары: па Брэсцкай вобласці **Уладзімір Пузырэўскі**, па Гомельскай **Ігар Пракапенка** і па Мінскай вобласці **Мікалай Іванчанка**.

Маюць намер пазмагацца за дэпутацкі мандат алімпійскі прызёр у кіданні молата **Вадзім Дзевятоўскі,** акцёр **Яўген Крыжаноўскі**, урач-псіхатэрапеўт **Аляксей Хадоркін**. Ёсць сярод вылучаных кандыдатамі ў дэпутаты і людзі, невядомыя шырокаму колу.

**Сяргей КАРАЛЕВІЧ,**
*БелаПАН.*

СТАЛІЦА

## *Трэцяя лінія метро з'явіцца ў 2017 годзе*

Падрыхтоўку тэрыторый для будаўніцтва трэцяй лініі мінскага метро плануецца пачаць да канца 2012 года. Аб гэтым паведаміў начальнік КУП "Дырэкцыя па будаўніцтве Мінскага метрапалітэна" Павел Царун на аператыўнай нарадзе ў Мінгарвыканкаме, перадае карэспандэнт БЕЛТА.

Падрыхтоўчы этап прадугледжвае добраўпарадкаванне будпляцовак, узвядзенне інжынернага корпуса, падвядзенне электраэнергіі да месца правядзення работ, набыццё механізаванага шчыта — спецыяльнага праходчага комплексу для пракладкі тунэля.

Трэцяя лінія Мінскага метрапалітэна злучыць паўднёвыя і паўночныя жылыя масівы горада з цэнтрам. Першы ўчастак трэцяй лініі, які складаецца з чатырох станцый, плануецца адкрыць у 2017 годзе. Тут будзе створаны так званы транспартны трохвугольнік, што дасць магчымасць разгрузіць дзеючы перасадачны вузел "Купалаўская"—"Кастрычніцкая". З адкрыццём новага ўчастка метро з'явяцца дадатковыя перасадачныя вузлы "Фрунзенская"—"Юбілейная" і "Плошча Леніна"—"Вакзальная".

ПОЗИЦИЯ

## Таисия КАБАНЧУК:
## *«Зачем быть зрителями, которые даже аплодируют по подсказке?»*



*Координатор группы по регистрации партии "Белорусская христианская демократия" по Могилевской области **Таисия Кабанчук** считает, что у оппозиции нет шансов попасть в парламент.*

**Из личного дела**

*Таисия Кабанчук родилась в 1954 году, образование — среднее специальное, профессия — библиотекарь.*

*В настоящее время на пенсии.*

*Имеет двух сыновей и трех внуков.*

— Я пришла в политику благодаря сыну, — *рассказывает Таисия Карповна*. — Он был осужден за участие в одной из уличных акций. И был одним из первых, кто получил статус политзаключенного. Я познакомилась с его товарищами и единомышленниками из "Молодого фронта" (зарегистрирован в Чехии). Стала ходить на различные мероприятия в офис Партии БНФ, где в то время собиралась, на мой взгляд, политическая и культурная элита нашего общества. Помощь этих людей и их участие в судьбе сына определили мой выбор. Как-то незаметно изменился мой взгляд на многие процессы, происходящие в стране. Я поняла, что декларируемое властью отношение к людям отличается от реального.

**— По логике, вы могли бы вступить в Партию БНФ, но сейчас представляете интересы создаваемой партии "Белорусская христианская демократия"...**

— Вначале для меня было важно просто быть в оппозиции. Затем вступила в Социал-демократическую партию, но в 2006 году после ареста Александра Козулина меня перестала устраивать позиция Анатолия Левковича, который вдруг объявил себя лидером партии и, что самое бесчестное, занял соглашательскую позицию по отношению к действующей власти. И я решила, что в сложившейся ситуации лучше перестать быть членом партии, которая предала своего лидера. Знала, что молодежь предпринимала попытки создать Белорусскую христианскую демократическую партию. Удалось даже провести учредительное собрание, но партию так и не зарегистрировал Минюст. Христианскими ценностями руководствовались мои деды, погибшие в сталинских лагерях. Родители воспитали во мне чувство свободы и справедливости, любовь к Богу. Я восхищалась Павлом Северинцем. И поэтому сделала окончательный партийный выбор. Сейчас координирую деятельность группы по регистрации БХД по Могилевской области.

**— Насколько я знаю, несколько лет назад вы уже участвовали в парламентских выборах. Поделитесь впечатлениями.**

— В 2008 году я была зарегистрирована и претендовала пройти в Палату представителей как беспартийный кандидат. Но я считаю, что в парламент попадают по согласованию — от мнения проголосовавших, к сожалению, мало что зависит.

**— Думаете, на этих выборах у оппозиции тоже нет шансов попасть в Палату представителей?**

— К сожалению, шансов нет. На мой взгляд, нынешние парламентские выборы пройдут и закончатся так же, как и все предыдущие. Свободных и честных выборов у нас нет. Вместо них — спектакль с заранее розданными ролями и заказанным финалом. Озвученные властью цифры по качественному составу парламента уже свидетельствуют о том, что результаты определены, финал известен, осталось лишь зазвать зрителей в зал. Используя силовое давление, проведут досрочное голосование и получат нужные проценты. А в жизни избирателей в очередной раз не случится никаких перемен.

**— И что вы предлагаете в такой ситуации?**

— Игнорировать выборы, чтобы не быть причастным к этой лжи.

Со своей стороны мы будем делать все возможное, чтобы донести беспристрастную информацию о так называемых выборах до как можно большего числа избирателей. Ведь назначенный парламент не изменил нашу жизнь к лучшему, молчаливое соглашательство депутатов, демонстрируемое на пленарных заседаниях, удобно и угодно лишь власти. И очередные "народные избранники" будут действовать по указке сверху. Так зачем тратить время и быть зрителями, которые даже аплодируют по подсказке?..

**Наталья СМИРНОВА.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
21 ЖНІЎНЯ 2012 г.

ДАТА

# Спатканне з Якубам Коласам

## «Я прыйшоў дзеля вас...»

***Карэспандэнт «Народнай Волі» сустрэўся і пагутарыў з захавальніцай Коласавай сядзібы Зінаідай Мікалаеўнай Камароўскай.***

...З асмяглага, выпаленага сонцам неба сцякалі халодныя, як са студні, кроплі марасейчыка. Лецейка патроху страчвала аксамітныя колеры, і ўжо перадвосенне наносіла ледзь заўважныя вохрыстыя колеры на ўсё яшчэ зялёную лістоту. Жнівень прыхарошваўся, аздабляючы пастэльныя строі кропелькамі расы, нібы тая маладзіца ўпрыгожвае свой белы вэлюм срэбнымі пацеркамі. Стаяла тая дзівосная пара, якую надзвычай любіў дзядзька Якуб — наш Колас...

Ужо на схіле жыцця, у адным з дзённікавых запісаў Канстанцін Міхайлавіч прызнаецца, што нішто яму так не падвышае настрой у нудотныя хвіліны роспачы і расчараванняў, як... дождж і ўдала напісаны верш.

Схаваўшыся пад парасонам і шыбуючы да Коласавай сядзібы (цяпер Літаратурна-мемарыяльны музей), мы мелі намер дакрануцца, а мо і спазнаць хаця б крышку з таго, што не ўмясцілі ні выдатныя творы, ні ўспаміны тых, хто яго добра ведаў, але што несумненна (па-іншаму не бывае) прысутнічала ў глыбінных сховах ягонай душы і, у рэшце рэшт, сілкавала паэтычны талент, грамадзянскую пазіцыю, проста чалавечую сутнасць... Мы мелі права разлічваць на гэта і дзесяць, і дваццаць гадоў таму, і зараз, і ў будучым...

Цяпер, як і дзесяцігоддзе таму, нас сустрэла **Зінаіда Мікалаеўна Камароўская.** Прыгожая, абаяльная жанчына, яна ўсё жыццё прысвяціла нялёгкай музейнай справе — карпатліваму збіранню і даследаванню матэрыялаў, звязаных з дзейнасцю двух песняроў (10 гадоў працавала ў Літаратурным музеі Янкі Купалы, а з 1985 года — тут, у Коласавым доме). Канечне, уся ў клопатах: 130-годдзе Песняра, лічы, на носе...

Спраў, як заўсёды падчас юбілею, набегла шмат, але захавальніца Коласавай сядзібы ніяк не губляе аптымізму, хаця, па яе ж словах, здзіўляцца ёсць чаму і нават непакоіцца. Дзесяць гадоў прамільгнулі-праляцелі, а праблемы ўсё тыя ж, ранейшыя...

Тады, у 2002 годзе, было лёгкае расчараванне ад таго, што экспазіцыя, прысвечаная менавіта аспектам глыбока асабістага ў лёсе Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча, разгортвалася марудна, з цяжкасцю. Памятаю, пакоі першага паверха (там меліся разгарнуць экспазіцыю) нібы стаіліся ў чаканні малавядомых ці амаль невядомых старонак жыцця вялікага Песняра і Чалавека, імя якому Якуб Колас... *“Прычына банальная па нашым часе,* — прыгадаліся словы Зінаіды Мікалаеўны, прамоўленыя ёю тады, у пярэдадзень 120-гадовага юбілею, *— яна ў нясвоечасовым фінансаванні і гэтага юбілейнага праекта, і ўсіх астатніх. Грант прэзідэнта для экспазіцыі мы атрымалі літаральна ў пярэдадзень святкавання юбілею. Канечне, неўзабаве экспазіцыя будзе разгорнута, але ж ці варта паўтараць, што ўсё трэба рабіць своечасова?..”*

З надрывам і на нервах, але тая экспазіцыя была прадстаўлена — і мела поспех, доўжылася працяглы час, знаёмячы людзей з унікальнымі дакументамі, якія дазволілі глыбей зазірнуць у космас Коласавай творчасці, у ягоны няпросты жыццяпіс. Тады і цяпер не пакідае думка: чаму на папсовыя і абсалютна бязглуздыя фэсты знаходзяцца сотні мільёнаў рублёў, а на рэстаўрацыю драўлянай хаціны ў Ластку (там маленькі Кастусь пражыў пяць гадоў, і там па-ранейшаму філіял музея) усё ніяк не выпадае — ні тае ўвагі, ні тых грошай?.. Здзіўляцца і непакоіцца ёсць з-за чаго і зараз, бо скасабочваюцца прыярытэты ў самым галоўным — у захаванні нацыянальнай душы, а яна перадусім — у родным, жывым слове... Геніі беларускай літаратуры **Купала і Колас — носьбіты, захавальнікі і слова роднага, і душы народнай. То ці варта на гэта забывацца?.. Ці варта шкадаваць грошай на дарогу да храмаў і на самыя храмы нашай беларускасці?..** Ну, напраўду: пасля вайны было ж горай — Мінск зруйнаваны, напаўгалодныя людзі, краіна жыла адно радасцю Перамогі над фашыстамі... Пры ўсім пры тым дзяржава знайшла патрэбным пабудаваць Канстанціну Міхайлавічу вось гэты дом-сядзібу... Значыць, разумелі на самым версе, што ёсць Колас для нацыі, для ўсяе Беларусі. А цяпер не могуць адшукаць сродкаў, каб у двары сядзібы ўстанавіць бронзавую кампазіцыю. Ну ўявіце: сядзіць Канстанцін Міхайлавіч на лавачцы пад шатамі ім жа пасаджаных дрэў і думае думку — пра ўсіх нас... А да яго людзі ідуць, сядаюць побач і слухаюць, слухаюць неўміручае:

*І крыўда ў тым, мае вы людзі:*
*І хто ж то волю даў паскудзе?*
*Нашто зямля іх, катаў, носіць?*
*Ой, хто ж ад іх не загалосіць?*
*А дзе на іх шукаць управы,*
*Бо суд “праўдзівы”, суд “ласкавы”*
*Паноў за здзекі не карае?*
*І хто цябе тут падтрымае?*
*Каму паскардзіцца і дзе?*
*Хто гэту крыўду адвядзе*
*І трохі згладзіць перашкоды?*
*І між сабою няма згоды:*
*Адны другіх бы тут паелі,*
*Або ўтапілі б, каб прымелі.*
*Адзін другога не пакрые,*
*Глядзяць, як ворагі ліхія,*
*Гатовы ліха прыкупіць,*
*Каб спатайку цябе ўкусіць.*
*А пан з таго і карыстае*
*І па чарзе ўсіх пералае...*










Пакуль не атрымліваецца ў Зінаіды Мікалаеўны зрушыць народ на стварэнне бронзавай кампазіцыі на падворку сядзібы, але ж яна не губляе надзеі, цярэбіць высокіх чыноўнікаў, шукае спонсараў-фундатараў сярод айчынных і замежных бізнесоўцаў. Некаторыя разумеюць ейны непакой, але не дужа варушацца, відаць, не працяў іх Коласаў клопат пра сваю зямлю, якая:

*Свой пэўны кут, свая ралля:*
*То — наймацнейшая аснова*
*І жыцця першая умова...*

Канечне, да юбілею (і ўжо зараз) дбайна рыхтуецца і Літаратурна-мемарыяльны музей, і Міністэрства культуры, і ўсё адукаванае грамадства. Можна, канечне, усцешыцца, але чаму пра святыні мы ўспамінаем толькі падчас юбілейных дат? Дом Якуба Коласа — не проста ўтульны будынак, дзе жыў вялікі Пясняр, дзе захавалася аўра часоў дзядзькі Якуба, дзе ўсё напамін пра паэта: дрэвы, пасаджаныя гаспадаром, уласныя рэчы, мэбля, раяль, бібліятэка. Дом і сядзіба — храм нашай веры, масток паміж мінулым і будучыняй... Сюды прыходзяць, не толькі каб уведаць, як там жыў дзядзька Якуб, але каб наталіцца верай у свае сілы, у праўду жыцця, якую спавядаў вялікі паэт. І не адно ў паэтычных радках спавядаў, за тую веру астрогам заплаціў...

У Коласавым доме, на жаль, і па сённяшні няма элементарных умоў для захавання экспанатаў, адсутнічаюць выставачныя залы. На першым паверсе, праўда, разгорнуты экспазіцыі, але гэта кропля з таго, што мусіла быць. *“Я ўсё ж маю надзею,* — кажа спадарыня Зінаіда, — *што калі-небудзь будзе выдзелена памяшканне, дзе размесцяцца фонды (а ў нас маецца 30 тысяч адзінак экспанатаў), лекцыйная і выставачная залы. І Ласток мае вострую патрэбу ў рэстаўрацыі, і пад’язная дарога да ляснога хутара... У свой час, яшчэ напярэдадні мінулага юбілею, задумалі мы стварыць грунтоўную экспазіцыю паводле паэмы “Сымон-музыка”. Дарэчы, гэты твор — мой найлюбімейшы...”*

Мы ўсё гаварылі, гаварылі... А тым часам дождж-марасей перастаў церушыць. За акном кабінета дзядзькі Якуба пасвятлела. *“Якраз такія хвіліны,* — быццам прачытаўшы мае думкі, прамовіла Зінаіда Мікалаеўна, — *Канстанцін Міхайлавіч любіў болей за ўсё... Выходзіў на падворак, сядаў на лаўку побач з дубкамі... Момант пасля дажджу чамусьці выклікаў у ягонай душы ціхае ўзрушэнне. А можа, катарсіс, нейкае замілаванне. Словамі тут нічога не вытлумачыць. Ды і не дадзена нам...”*

Многія схільны думаць, што моцная сацыяльна-побытавая плынь Коласавых твораў нібыта зазямляе іх, робіць празмерна прывязанымі да канкрэтнага часу, канкрэтных абставін, а значыць, напісанае ім некалі малаактуальнае сёння...

*“Вельмі спрошчанае ўяўленне,* — адгукаецца на гэта Зінаіда Мікалаеўна. — *Не, Колас-эпік, Колас-мастак — глыбокафіласафічны, па-сапраўднаму інтэлектуальны. Быў і застаецца. І нам яшчэ неабходна раскрыць еўрапейскі маштаб, усясветны ўзровень ягонай творчасці, аднавіць традыцыю інтэнсіўнага спасціжэння спадчыны класіка, але на новай аснове — з акцэнтам на эстэтычны бок творчасці, на яе індывідуальныя рысы. Тут мы яшчэ далёка не ўсё ведаем пра ўнутраны свет паэта, яго лірычную мелодыю, асабліва на схіле жыцця...”*

Некаторыя, больш таго, спрабуюць як бы параўнаць творчую спадчыну Коласа і Купалы, аддаючы перавагу сімволіка-алегарычнай плыні, якая дамінавала ў творчасці Купалы. Але ж гэтую акалічнасць лёгка вытлумачыць, прыняўшы пад увагу сучаснае нацыянальна-культурнае жыццё, нявырашаныя праблемы культурна-дзяржаўнага будаўніцтва, становішча, у якім апынуліся беларуская мова, школа, нацыянальны друк і ўсё астатняе. Вершы Янкі Купалы і яго публіцыстыка 1914—1920 гг., трагікамедыя “Тутэйшыя” — квінтэсенцыя нацыянальна-адраджэнскай думкі. Тут беларуская ідэя знайшла сваё яскравае ўвасабленне, разуменне моладзі. З агучанага паэтам, з напісанага — і ў гэтым трагізм беларускай нацыі — нічога не састарэла да нашага часу. Усё засталося надзённым, актуальным і балючым...

Колас апынуўся ў крыху іншай сітуацыі: гады рэвалюцыі, перыяд акупацыі ён вымушаны быў правесці па-за межамі Бацькаўшчыны. І, натуральна, мысліў, пісаў, зыходзячы з такой рэальнасці. У выніку ж яны (Купала і Колас) — як бы два крылы беларускай паэтычнай жар-птушкі, дзве магутныя галіны на дрэве айчыннага прыгожага пісьменства. І аднолькавыя ініцыялы іх псеўданімаў, што сталі амаль уласнымі імёнамі, ураўнаважваюць, але не атаясамліваюць постаці дзвюх велічных фігур нацыянальнай культуры.

“Мы, Гануся, каляіны. Адной скрыпкі дзве струны”, — гэтыя радкі з “Сымона-музыкі” добра стасуюцца да Коласа і Купалы, бо кожная струна прамаўляе-гучыць сваім голасам, мае сваю танальнасць, ствараючы чароўную, гарманічную мелодыю. Коласавы героі — простыя людзі, звычайныя, але ж на іх трымаецца паўсядзённае жыццё. Што здаецца простым, у сапраўднасці бывае вельмі складаным... Так і ў Коласавых творах: за простым і лёгкім вершам “Новай зямлі” — спракавечнае і недасягальнае для беларуса... Цяперашнія перыпетыі жыцця якраз тое пацвярджаюць... Таму творчасць Коласа — не архаіка, а нацыянальная літаратурная класіка. І ў гэтай якасці яна застанецца заўсёды невычэрпнай, новай для кожнага наступнага пакалення.

Невычэрпным застанецца і багацце Коласавай лірыкі (нават тых лірычных пярлінак, што параскіданы ў празаічных творах), не кажучы ўжо пра цэлы свет яго эпісталярнай спадчыны, якая многае праясняе з публічнага і асабістага жыцця Якуба Коласа. З нядаўняга часу ў музеі пачалі даследаваць пісьмы паэта, адрасаваныя Аляксандры Кетлер. Гэтыя 250 лістоў былі выкуплены музеем у Аляксандры Антонаўны 20 гадоў таму, але, па ўмове жанчыны, толькі пасля 2013 года могуць быць апублікаваны. Магчыма, такое калі-небудзь і здарыцца... А пакуль (дзякуй спадарыні Зінаідзе) мне надарылася аднаму з першых убачыць напісанае Коласам і нават сёе-тое прачытаць... Прызнацца, быў агаломшаны, узрушаны да глыбіні душы амаль спавядальнымі, глыбока асабістымі разважаннямі паэта пра жыццё, адзіноту і надакучлівасць паўсядзённай непатрэбшчыны, якая навязліва, неадступна праследавала Чалавека, якому суджана было тварыць паэзію, а не займацца чорт ведае чым...

*“Я хацела б,* — дзялілася Зінаіда Камароўская, — *з дапамогаю новай экспазіцыі неяк развеяць міф пра Коласа ледзь не як пра скнару, які нібыта і грошай шкадаваў, і блізкім не дапамагаў, і на людскія бядоты не адгукаўся... Ды лухта гэта. Уявіце сабе: у стале пісьменніка мы знайшлі куфэрак, а ў ім вялізны стос паштовых квіткоў. І на кожным квітку (а гэта ж дакумент) пазначана немалая сума грошай, якую Колас перасылаў... невядомым яму людзям. Каму на рамонт хаты, каму на набыццё каровы, каму на вучобу... Скажыце, хто ў наш час з тых, хто лічыць сябе заможным ды багатым (а такія ж, дзякаваць Богу, ёсць), проста так дасць некаму грошай?..”*

І яшчэ адно трывожыць: цяперашнія беларусы, асабліва моладзь, не дужа цікавяцца паэтычнай спадчынай класікаў, іх публіцыстыкай. А дарэмна: тая ж паэма “На шляху волі”, ці там “Казкі жыцця”, альбо Купалаўскія санеты — крыніца спасціжэння нашай рэчаіснасці, нашай мінуўшчыны і шляхоў, якімі варта ісці наперад. У гэтым плане, напрыклад, варта кожнаму ўнікнуць у трагічныя падзеі 1930-х гг., зразумець і асэнсаваць тыя ж “лісты-пакаянні” абодвух паэтаў. Асэнсаваць, каб зразумець сябе сённяшніх і ўчынкі свае... *“Многае, паверце,* — разважае спадарыня Зінаіда, — *і па сённяшні дзень у творчасці абодвух класікаў яшчэ поўнасцю не асэнсавана. Самі па сабе гэтыя асобы — сапраўдныя глыбы, яны будуць і надалей прыцягваць да сябе не адно даследчыкаў, але ўсіх, хто дапытлівы, хто шукае праўду жыцця і не страціў сумлення. Якуб Колас і Янка Купала — духоўнае апірышча ўсяе нацыі, але яны не забранзавелыя постаці, а заўсёдна жывыя... Учытайцеся хоць бы ў гэты лісток, напісаны Коласам не для чытача, а хутчэй для сябе ў, магчыма, няпростую хвіліну душэўнай адзіноты. Такіх хвілін на схіле жыцця было ў яго даволі...”*

***“Я — рыба, выкінутая на пясок. Калі б хто захацеў, каб рыбу пакінуць жывою, то ён ці той — дагадаўся б зараз жа кінуць у вядро з чыстаю, халоднаю вадою гэту рыбу. Такіх добрых душ няма. А я і не крыўджуся. Я чалавек-вандроўнік, чые гадзіны адлічаны. Таму пара сказаць: я ваш нядоўгі госць.***

***Надыходзіць вясна, жыццё абуджаецца з новаю сілаю, а я так моцна звязаны з жыццём, што мне не хочацца пакідаць вас, мае сябры, мае лясы, мае лугі, мае рэчкі, мае крынічкі і чорнагаловыя баравікі. Я прыйшоў у жыццё не для сябе самога, я прыйшоў дзеля вас. Калі вам будзе добра (я тут разумею ўвесь комплекс жыцця), пойдзеце па праўдзівай дарозе жыцця, калі вы будзеце мець на ўвазе не толькі сябе, але і народ, які вас пусціў у жыццё, і калі вы будзеце жыць з народам дзеля народа, тады я скажу: няхай жа будзе шчаслівай ваша дарога.***

***У мінуты шчырасці Мікалаеўскі чалавек Канстанцін Міцкевіч”.***

Развітваюся з Коласавай сядзібай пасля дажджу-марасея, які так любіў Канстанцін Міхайлавіч. На двары — тая пара, калі жнівень пацiху губляе аксаміт у кронах дрэў, а ў дубравах — недзе на Мікалаеўшчыне — прабіваюць дол чорнагаловыя баравікі... Якім быў той апошні ў жыцці Коласа марасей у жніўні 56-га — мне невядома. Мусіць, такім жа, як і цяпер, хіба з той розніцай, якую зафіксавала рука паэта, перагарнуўшы ў апошні раз лісток календара з лічбаю 13... І, відаць, ніколі да канца нам не зведаць усіх глыбінь паэтавай душы, якая ўвабрала ў сябе столькі ўсяго і ўрэшце пакінула на пажоўклым аркушыку гэтыя словы: “Я прыйшоў дзеля вас...”

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

УВАГА!

## «Белвідэацэнтр» шукае сцэнарыстаў

*Магчымасць выгадна прадаць свой талент з’явілася ва ўсіх, хто верыць ва ўласныя здольнасці сцэнарыста.*

“Беларускі відэацэнтр” шукае асоб, якія ствараюць сцэнары для кароткаметражнага ігравога кіно. Пры гэтым патрэбны не толькі сцэнарысты. Месца знойдзецца і для таленавітых рэжысёраў.

Са свайго боку “Відэацэнтр” прапануе прасоўванне і фінансаванне фільмаў. Аўтару дапамогуць даслаць новы фільм на прэстыжныя міжнародныя фестывалі кароткага метра.

Ад кандыдатаў патрабуецца сцэнарый з хранаметражам ад 1 да 15 хвілін. Форма літаратурнай заяўкі вольная, але аб’ём не павінен перавышаць 2—3 старонак.

Тэрмін прыёму заявак — да 10 верасня.

ПРОШУ СЛОВА!

## Были или не были?

В одном из номеров “Народной Воли” напечатано интервью Юрия Михалевича, представляющего сайт goals.by, с “золотой рыбкой” Александрой Герасименей. В редакционном предисловии сказано, что “раньше наши пловцы ничего не брали на Олимпиадах”. Это не совсем так. А как же два золота Сережи Коплякова в Москве? Или два барселонских успеха Елены Рутковской — золото в личном зачете на дистанции 200 метров брассом и бронза в комбинированной эстафете?

Хочется расшифровать успех Сергея Коплякова в выступлении на 200 метров вольным стилем. Он был вполне закономерным, ибо незадолго до Олимпиады он стал рекордсменом мира именно на этой дистанции, впервые разменяв рубеж 2 минуты 50 секунд!

Да, эти победы были добыты в составах сборных команд Советского Союза, но ведь от этого Сергей и Елена никогда не переставали быть белорусами.

**Владимир ЗВЕРНИК,**
**главный тренер сборной команды Беларуси в 1967—1974 годах.**

### ОТ РЕДАКЦИИ

Уважаемый автор!

Вы, кажется, сами расставили точки над “і”. В предисловии к интервью Ю.Михалевича речь идет об этапе, связанном с тем временем, когда Беларусь стала суверенной страной, а Вы возвращаетесь в советское время, когда наши спортсмены выступали за сборную СССР. Это разные вещи, хотя приятно напомнить о тогдашних блестящих успехах и Сергея Коплякова, и Елены Рутковской.

ПОДЫУМ

## Тытул «Міс Свету» заваявала кітаянка

*Беларуская прыгажуня Юлія Скалковіч засталася па-за прызавымі месцамі і саступіла карону пераможцы — аматарцы пельменяў.*



23-гадовая **Юй Вэнься** ўжо атрымала ад крытыкаў ганаровае званне прадвесніка новай эпохі ў індустрыі прыгажосці. Маўляў, мадэльны стандарт зараз фарміруецца па кітайскім, а не па лацінаамерыканскім узоры. Між тым гэта толькі другая перамога кітаянак у конкурсе. Часцей за ўсё першымі прыгажунямі прызнавалі прадстаўніц Венесуэлы. Карона адыходзіла ім шэсць разоў.

А вось беларускам пакуль шчасце не ўсміхалася. Наша **Юлія Скалковіч** сёлета не здолела прабіцца ў суперфінал, хоць букмекеры і абяцалі ёй высокія вынікі.

Фінал конкурсу “Міс Свету” праходзіў у кітайскім горадзе Ордас. За выступленнямі прыгажунь адначасова сачылі каля мільярда чалавек — менавіта такая па падліках аўдыторыя шоу.

Пра пераможцу вядома няшмат. Юй Вэнься не надта вылучалася з ліку іншых 115 удзельніц конкурсу. Вядома, што яна марыць быць настаўніцай музыкі, любіць іграць на фартэпіяна, танцаваць і... пельмені.

Бліжэйшы год кітаянка будзе выконваць абавязкі “Міс Свету”. Ёй прыйдзецца шмат падарожнічаць, займацца дабрачыннасцю, прымаць удзел у разнастайных афіцыйных мерапрыемствах.

“Міс Беларусь” Юлія Скалковіч павінна была вярнуцца ў Беларусь у панядзелак раніцай, але ёй давялося затрымацца. Па некаторай інфармацыі, дзяўчына падхапіла інфекцыю і не змагла выправіцца ў дарогу.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

СТРАТА

## Смуткуем...

*У мінулую нядзелю пахавалі калісьці вядомага футбаліста мінскага “Дынама”, выдатнага трэнера Генадзя Браніслававіча Абрамовіча.*

Як паведаміла прэс-служба Беларускай федэрацыі футбола, Генадзь Абрамовіч памёр на 85-м годзе жыцця пасля доўгай і працяглай хваробы.

Майстар спорту СССР, бронзавы прызёр чэмпіянату СССР 1954 года ў складзе мінскага “Спартака”, заслужаны трэнер Беларусі...

За мінскія каманды майстроў “Спартак” і “Дынама” Абрамовіч выступаў з 1949-га па 1959 год. Пасля завяршэння гульнявой кар’еры ён перайшоў на трэнерскую працу па падрыхтоўцы рэзерву ў мінскім “Дынама”, а затым працаваў дзяржаўным трэнерам зборных каманд СССР па Беларусі пры Дзяржкамспорце БССР. Уваходзіў у трэнерскі штаб маладзёжнай зборнай СССР у 1979 годзе, калі каманда выйграла сярэбраныя медалі на чэмпіянаце свету сярод моладзі і заняла трэцяе месца на чэмпіянаце Еўропы ў Фінляндыі. Пад яго кіраўніцтвам зборная БССР неаднаразова займала прызавыя месцы ў кубках ЦК ВЛКСМ “Надзея”, “Юнацтва”, турніры “Пераправа”.

У нацыянальных чэмпіянатах Беларусі Абрамовіч кіраваў камандамі “Атака-407” (Мінск), “Ведрыч” (Рэчыца), “Тарпеда” (Мінск), “Белшына” (Бабруйск), “Арбіта” (Мінск). Працаваў у мінскіх міні-футбольных камандах “Будзаказ” і “Дарожнік”.

Смуткуем...

ПАСЛЯ АЛІМПІЯДЫ

## Дабрачынны Вінакураў

*Велагоншчык з Казахстана Аляксандр Вінакураў выставіць на аўкцыён веласіпед, на якім ён заваяваў залаты медаль Алімпійскіх гульняў у Лондане ў групавой гонцы.*



Стартавая цана лота складзе 50 тысяч долараў, паведамляе “Спорт-Экспресс”.

38-гадовы Вінакураў распавёў, што аўкцыён, на якім будзе прададзены веласіпед, адбудзецца на пачатку верасня. Усе атрыманыя грошы спартсмен мае намер перадаць у дзіцячыя дамы Казахстана.

У першы дзень лонданскай Алімпіяды Вінакураў выйграў залаты медаль у велагонцы на 250 кіламетраў. Адразу пасля фінішу спартсмен заявіў, што ў бліжэйшы час завершыць кар’еру.

15 жніўня 2012 года Вінакураў правёў апошнюю гонку. Ён заняў 35-е месца ў аднадзённай гонцы “Класіка Сан-Себасцьяна”. У 2011 годзе, дарэчы, гоншчык ужо заяўляў аб завяршэнні кар’еры пасля цяжкай траўмы, якую атрымаў на “Тур дэ Франс”. Аднак Вінакураў вярнуўся ў спорт, каб яго каманда “Астана” не згубіла ліцэнзію.

## Непрадказальны прэм’ер

*Прэм’ер-міністр Малдовы Влад Філат з асабістых зберажэнняў купіў дзве кватэры прызёрам Алімпіяды ў Лондане.*

А ўрад адной з самых бедных краін Еўропы знайшоў 560 тысяч еўра на бонусы алімпійцам і трэнерам, большая частка з якіх наогул не з’яўляюцца медалістамі Гульняў-2012.

Зборная Малдовы заняла 75-е месца сярод 88 краін, якія заваявалі ўзнагароды на гэтых летніх Гульнях. Як паведаміў на пасяджэнні ўрада намеснік міністра фінансаў Віктар Барбэнягрэ, прэміі атрымаюць дзевяць спартсменаў і іх трэнеры.

Па звестках Reuters, бронзавым прызёрам — штангістам Крысціне Йову і Анатолю Кырыку — і іх трэнерам вырашана даць па 80 тысяч еўра. Астатнія атлеты, а таксама іх трэнеры і масажысты стануць багацейшымі на 10—30 тысяч еўра за месца ў канцы першай дзясяткі выніковага алімпійскага пратакола.

Улады таксама паведамілі, што прэм’ер-міністр купіў двум прызёрам Алімпіяды двухпакаёвыя кватэры ў цэнтры сталіцы, якія могуць каштаваць прыкладна 60—80 тысяч еўра.

Да таго, як Влад Філат стаў прэм’ер-міністрам у 2009 годзе, ён зарабіў грошы на экспарце цыгарэт у Румынію і дэвелопменце. Згодна з яго дэкларацыяй аб даходах за 2011 год, ён атрымаў заробак у суме 14.200 долараў, а таксама 524 тысячы долараў у выглядзе дывідэндаў на акцыі.

## Фантастычны Болт

*Спрынтар з Ямайкі Усейн Болт заявіў, што хацеў бы паспрабаваць свае сілы ў футболе. У прыватнасці ў камандзе англійскай прэм’ер-лігі “Манчэстэр Юнайтэд”.*




Аб гэтым сваім жаданні спартсмен распавёў у гутарцы з выданнем The Sun.

Чэмпіён Лондана-2012 на стаметроўцы падкрэсліў, што ўпэўнены ў сваіх сілах і мог бы дапамагчы англійскай камандзе. Як адзначыў Болт, многія могуць палічыць яго заяву жартам, але калі Алекс Фергюсан на самай справе патэлефануе і пакліча ў каманду, то ён не зможа адмовіцца.

Лёгкаатлет дадаў, што ён зможа дапамагчы “Манчэстэру” не толькі сваім уменнем хутка бегаць. Болт лічыць, што здольны на ўзроўні гуляць у футбол.

Прадстаўнік “Манчэстэра”, з якім звязалася выданне, сказаў, што спартсмен з Ямайкі і на самай справе мог бы дапамагчы камандзе ў паскарэнні тэмпу.

Сам галоўны трэнер Алекс Фергюсан пакуль ніяк не адрэагаваў на словы алімпійскага чэмпіёна. Дарэчы, лёгкаатлет і настаўнік футбольнай каманды знаёмы паміж сабой. Некалькі гадоў таму Болт прыязджаў у Манчэстэр, дзе ўдзельнічаў у забегу па горадзе. Падчас гэтага візіту ён і пазнаёміўся з сэрам Алексам Фергюсанам.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ИТОГИ

# За ковром

*Впервые за свою суверенную историю Беларусь на Олимпиаде осталась без медалей в борьбе. Сегодня итоги выступления белорусских борцов анализируют для “Народной Воли” неоднократный чемпион мира по самбо, председатель национальной федерации **Владимир ЯПРИНЦЕВ** и трехкратный олимпийский чемпион по вольной борьбе **Александр МЕДВЕДЬ**.*

*13 спортсменов представляли нашу страну в Лондоне в различных видах единоборств (дзюдо, вольная и греко-римская борьба), но ни одному так и не удалось взойти на пьедестал. Многие называют выступление провалом. Специалисты просят относиться к этому “более взвешенно”...*



*Владимир ЯПРИНЦЕВ:*

## «Не сыпьте соль на рану»

— Если пять наших спортсменов боролись за “тройку”, то, наверное, нельзя сказать, что здесь какой-то провал. Надо знать внутреннюю кухню. Да и не хватало на Олимпиаде председателя белорусской Федерации борьбы Юрия Чижа, у него большой вес в Международной федерации борьбы. Уверен, что пару схваток с участием наших спортсменов судьи так бессовестно не засудили бы. Я же видел, как наши борцы до Игр неистово тренировались, как они переживали на Олимпиаде... Просто сумасшедшее переживание! На старшего тренера по греко-римской борьбе Камандара Маджидова вообще было жалко смотреть. Это нужно видеть на месте. А журналисты уже начинают писать то, чего не знают, и давать советы. Кто-то видел, как плакали мужчины? Я приехал домой — у меня полное опустошение. А здесь еще норовят сыпануть соли на рану, чтобы было побольнее. Я привык всегда мотивировать людей. Не хаять, не ругать и не делать так, чтобы было еще хуже. Мы старались победить. Есть, конечно, некоторые нюансы, вопросы к отдельным спортсменам, но это уже, как говорят, для внутреннего пользования.

**— Как вам судейство на Олимпиаде? Например, много споров вызвало решение судей, вынесенное в пользу азербайджанского борца, а не нашего Али Шабанова…**

— Я знаю, как судьи предвзято отнеслись к Али Шабанову. Но, уверен, у него большое будущее. Мы — борцы — должны действовать более дерзко. Вы посмотрите на американцев. Они в жизни расслабленные, а выходят на ковер — звери! Агрессия такая, что можно с ума



сойти. А наши были зажаты. Так что я не могу сказать, что эта Олимпиада прошла под знаком судейского беспредела — все равно побеждал сильнейший. Было много примеров мужества спортсменов. Но это у победителей несколько отцов, а у проигрыша — одна сирота. Сейчас уже все — знатоки борьбы, все дают советы, как надо было тренироваться. Да, Беларусь потеряла какие-то традиции в борьбе, но это же не Кавказ. Думаю, все победы у нас еще впереди. Это моя стопроцентная уверенность. И самое главное, что мы знаем, как это надо делать.

**— Может быть, белорусы становятся более хилыми? Это на самом деле — не Кавказ.**

— Все это ерунда и разговоры для бедных. Посмотрите на россиян — у них там вообще все убито. У нас сегодня есть детско-спортивные школы, работают тренеры... А в России все на коммерции. Я лично в свое время 15 лет ЦСКА отдал, а что сейчас клуб дал? Автомобильные салоны? А в Беларуси, слава Богу, дворцы спорта работают. Да, наверное, немного надо поменять нашу белорусскую “памяркоўнасць”, не хватает где-то агрессии, хотя мне более комфортно жить с толерантными людьми, чем с агрессивными. Хотя опять-таки — американцы ведь находят какие-то аргументы для своих спортсменов, которые в жизни улыбчивы и открыты, а на ковре — львы.

**— Звучит критика в плане того, что среди борцов, которые выступают за сборную Беларуси, очень много, скажем так, легионеров. Не лучше ли растить своих?**

— Приемлема любая критика, если это не критиканство. Как говорят, на то и щука, чтобы карась не дремал. Но сегодня реалии таковы, что молодым надо брать с кого-то пример, с лидеров.

**— Какие, на ваш взгляд, основные уроки должна сделать белорусская борьба после этой Олимпиады?**

— Когда у главного тренера сборной России по художественной гимнастике Ирины Александровны Винер спросили о секретах мастерства, она ответила коротко: “Надо больше работать”. Все — секретов больше нет! Прославленный борец Александр Карелин тоже говорил: “Ребята, когда у вас вместо ладоней будут сплошные мозоли и когда вы отдадите все силы на ковре, хотя и проиграете, народ никогда не скажет, что проиграли”. Можно проиграть, но сил должно остаться ровно столько, чтобы пожать руку сопернику. Вот это мужчина! Хотя, безусловно, нужно совершенствоваться в медицине, психологии... Уроки будут сделаны. Но я знаю, что сегодня все спортсмены стопроцентно обязаны государству. Потому что так, как относятся к спортсменам в Беларуси, не относятся нигде.

*Александр МЕДВЕДЬ:*

## «Самим спортсменам не надо было спать в шапку»



— Как оцениваю выступление наших борцов? В спорте бывает по-разному, а уж тем более на Олимпиаде. Сегодня ты на коне, а завтра — под ним. Хотя чемпионат мира показал, что хорошие спортсмены у нас есть. А то, что на Играх не завоевали ни одной медали... Наверное, подготовка такая была. Здесь много причин, целый комплекс, и сейчас надо прежде всего искать истоки неудач. Ведь ребята толковые, хорошие. Значит, есть другие недостатки, пробелы в чем-то. Нужно проанализировать и тренерские просчеты.

**— Может быть, судьи не захотели пускать белорусских борцов на пьедестал?**

— Мне тоже кажется, что судейство было необъективное. Я видел много судейских ошибок, но здесь, как говорят, палка о двух концах. Самим спортсменам тоже надо было не спать в шапку. Сегодня борьба вышла совсем на другой уровень. Соперники действуют настолько агрессивно, что чуть зазевался — и все, пиши письма и пакуй чемоданы.

**— Какими вам видятся перспективы в борьбе?**

— Сейчас вот пошли разговоры о том, что в школах могут ввести третий урок физкультуры, и я это только приветствую. Я сам работаю в вузе и вижу, какие кадры приходят после школы. Они же от пола отжаться не могут, не то что бороться! Процентов 60 студентов имеют справки, чтобы ходить на лечебную физкультуру. Это наш бич, а нация должна быть здоровая. Раньше был комплекс ГТО, задор... А сейчас плывем по течению. Откуда талантливым борцам браться?

**— Александр Васильевич, какие впечатления от самой Олимпиады?**

— Я видел все Олимпиады, но эта была для меня самая тяжелая. Мы жили не в Олимпийской деревне, было далеко добираться до места соревнований. На метро, затем на такси... И еще километр идти пешком до зала. Только на транспорт уходило в день по 50 английских фунтов стерлингов, все деньги потратил. Да и открытие Игр не понравилось. Показали всю историю Англии, что там интересного? Книгу почитайте, кто увлекается. Я три часа не выдержал — плюнул, встал и спать пошел. Да и закрытие — так себе...

**Алесь СИВЫЙ.**

ПО ПОВОДУ

# Опять удар ниже пояса

*Все белорусские боксеры-олимпийцы бесславно выступили на олимпийском ринге в Лондоне. Фиаско Пекина повторилось...*

И это уже, наверное, не случайность, а закономерность. Некоторые наши специалисты считали, что провал наших боксеров в Пекине — случайность. Тогда как понимать повторный провал в Лондоне?..

Впрочем, обо всем по порядку.

В Лондон поехала, на мой взгляд, малочисленная команда. Всего три боксера-мужчины и ни одной спортсменки. Женского бокса у нас пока нет, а жаль... Наши боевые девчонки, уверен, не подкачали бы.

Напомню, что на лондонский ринг поднимались: Михаил Довголевец в весовой категории до 81 кг, Вазген Сафарьянц (до 60 кг) и Сергей Корнеев (до 91 кг). Безусловно, наши медальные надежды мы связывали с призером чемпионатов Европы и мира С.Корнеевым. Тем более что накануне Олимпиады его личный тренер К.Маханьков заявил: на Игры нужно ехать либо за “золотом”, либо не ехать вообще. А главный тренер сборной страны В.Корнилов в одном из интервью сказал, что мы будем побеждать не числом, а умением.

Но, как показали поединки наших бойцов в квадрате лондонского ринга, эти громкие заявления с результатами разошлись. В первом же бою завершил участие в Олимпиаде М.Довголевец. Он проиграл украинцу А.Гвоздику — 10:18. Проиграл, по мнению судей, свой поединок и В.Сафарьянц, хотя счет был равным. С.Корнеев первый бой выиграл, а второй проиграл. И опять же — по мнению судей. И снова — при равном счете. Комментарии, как говорится, в этих случаях результат не изменят.

Автор этих строк внимательно наблюдал за боями наших боксеров, и откровенно скажу: лично у меня определенное сомнение в решении судей вызвал второй поединок С.Корнеева. Но я был не рядом с рингом, а у телевизора.

На мой взгляд, дело здесь не в судьях, а в недостаточной технической, тактической и психологической подготовке наших боксеров. Всем нашим спортсменам чего-то не хватало. А разбираться, чего именно, — это уже дело специалистов.

Конечно, поражения вызывают грусть и досаду. Как говорил один киногерой: за державу обидно. Надеюсь, что после этого очередного провала пора нашим спортивным боссам из Министерства спорта и туризма, НОК серьезно разобраться, что происходит в нашем боксерском доме.

**Юрий ЯСИНСКИЙ,**
**ветеран спорта,**
**заслуженный**
**тренер БССР.**



ШАХМАТЫ

## Решите задачу
*Д.Бунтинг*




**Белые:** Кре7, Фd6, Ла3, Лg5, Cd1, Cg1 (6).

**Черные:** Кре4, Cf5, Kb3, Kd2, п. g4 (5).

**Мат в 2 хода.**

Свои ответы присылайте по адресу: **220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты “Народная Воля”, “Шахматы”.**

## Юбилей Г.Вересова

В июле шахматисты Беларуси отметили 100-летие со дня рождения первого белорусского международного мастера, шестикратного чемпиона страны, видного теоретика и общественного деятеля Гавриила Николаевича Вересова (1912—1979). К юбилею вышла из печати книга, посвященная жизненному пути и творчеству выдающегося белорусского шахматиста, подготовленная гроссмейстером Виктором Купрейчиком и журналистом Иосифом Калютой. Юбилею был посвящен и международный шахматный турнир, который прошел в Минске в Республиканском центре олимпийской подготовки по шахматам и шашкам.

В турнире, проводившемся по швейцарской системе в 9 туров, выступили 138 шахматистов из восьми стран. Призовой фонд турнира превышал 10.000 долларов. Соревнования прошли в острой спортивной борьбе. Исход соперничества определил лишь заключительный тур. В итоге сразу четыре шахматиста финишировали с одинаковым количеством очков, набрав по 7,5 очка из 9 возможных. По дополнительным критериям победителем мемориала стал 22-летний минский гроссмейстер Кирилл Ступак. Ему был вручен Кубок и первый приз.

Второе место было присуждено международному мастеру Александру Косенко (Украина), третье — международному мастеру Ивану Розуму (Россия), четвертый приз — минчанину, международному мастеру Дмитрию Новицкому.

В турнире принимали участие 10 гроссмейстеров, но большинство из них заняли места в группе набравших по 6,5 очка. Таких оказалось 10! В порядке занятых мест: 5.гроссмейстер Сергей Заблоцкий (Россия), 6.18-летний минчанин, международный мастер Владислав Ковалев, 7.гроссмейстер Евгений Левин (Россия), 8.международный мастер Евгений Мочалов (Беларусь), 9.рейтинг-фаворит турнира, экс-чемпион мира ФИДЕ Александр Халифман (Россия), 10.мастер ФИДЕ Кирилл Бурдалев (Украина), 11.гроссмейстер Геннадий Туник (Россия), гроссмейстеры 12.Евгений Подольченко, 13.Игорь Люцко, 14.кандидат в мастера Шант Хачикян (все из Беларуси).

Среди женщин лучший результат у Юлии Горожанкиной (Россия) — 5,5, второе место у Марии Невеселой (Беларусь).

Среди ветеранов приз получил кандидат в мастера Ростислав Бузук — 4,5, рейтинговые призы получили молодые белорусские спортсмены Никита Горшков, Давид Хачикян, Андрей Савицкий, Алексей Кустов и ветеран Сергей Тальма.

## Олимпийская чемпионка поставила Ермошину на место

*Чемпионка XXX Олимпийских игр косвенно дала настоящий отлуп главе белорусского Центризбиркома.*

Победительница соревнований в женской борьбе в категории до 72 килограммов россиянка Наталья Воробьева заявила, что жизнь не стоит на месте, все развивается, а поэтому глупо жить вчерашним днем:

— На дворе XXI век. Раньше женщина сидела дома, воспитывала детей и готовила борщ. А сейчас у женщин может быть свой бизнес, машина и борьба в качестве работы. Почему и мне не бороться?

Напомним, после жестокого разгона “Плошчы”, в ходе которого бойцы белорусских спецслужб избивали людей, в том числе и представительниц прекрасной половины человечества, глава Центризбиркома Лидия Ермошина заявила, что не дело женщин бороться за свои права:

— Вы знаете, этим “жанчынам” делать нечего. Сидели бы дома, борщ варили, а не по площадям шастали. Мне в голову это не придет. Это позор для женщины — участвовать в подобных мероприятиях. Я еще понимаю, когда она девица дурная, молодая, так молодых людей много. А когда женщина в возрасте идет, значит, у нее, извините, что-то с интеллектом не в порядке.

Две женщины, Воробьева и Ермошина, — два взгляда на борьбу. Несмотря на то что речь идет о борьбе спортивной и борьбе политической, общий смысл не меняется.

**Федор КОСТРОВ,**
*“Товарищ.online”.*

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск,**
**вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная:**
**тэл.**
**(017) 3286871.**
**Тэл./факс**
**рэкламнага**
**аддзела: (017)**
**3286904, 3286906**
**nv@promedia.by**
**http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya**

ISSN 2071-9647

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік**
**і галоўны рэдактар**
**Іосіф Паўлавіч**
**СЯРЭДЗІЧ**



**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 20.08.2012 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 28010 экз. Заказ №3551.**